НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ



# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№ 5 (134), САКАВІК 2012 ГОДА

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## КАДРАВАЕ ПЫТАННЕ – АДНО З НАЙВАЖНЕЙШЫХ У РАЁНЕ

**На чарговай сесіі райсавета дэпутатаў былі разгледжаны пытанні сацыяльна-эканамічнага жыцця раёна. Аднак па выніках работы аказалася, што рэальны сектар эканомікі па -ранейшаму застаецца нерэнтабельным. Як высветлілася, негатыўныя з'явы ў эканоміцы выклікаюцца недахопам кадраў. Асабліва вострую патрэбу ў спецыялістах адчувае сельская гаспадарка.**

Павестка дня на сесіі ўключала некалькі асноўных пытанняў па павышэнні дабрабыту і паляпшэнні ўмоў насельніцтва. Прычым галоўную ўвагу старшыня райсавета Ірына Новікава засяродзіла падчас справаздачы на ўдасканаленні сацыяльна-эканамічных адносін. Так, рэалізацыя планавых заданняў дала свой плён. Але пра паспяховае развіццё эканомікі ўсяго раёна гаворка не ідзе. З пачатку бягучага года з дваццаці прагнозных паказчыкаў выканана усяго пяць.

Па меркаванню старшыні райсавета, на тое, што раёну не ўдалося ласягнуць намечаных рубяжоў, паўплывала крытычная сітуацыя з кадрамі. Адкуль жа быць высокім тэмпам развіцця, калі штогод раёну патрэбна не менш 140 маладых спецыялістаў" Да таго ж насельніцтва раёна кожны год скарачаецца на 400 чалавек.

Людзі – гэта галоўны капітал. Чаму існуе дэфіцыт кадраў, калі з навучальныя установы поўнсцю забяспечваюць імі патрэбы народнай гаспадаркі краіны? Да прыкладу, паводле дадзеных камітэта працы, занятасці і сацыяльнай абароны, узровень беспрацоўя за год знізіўся на 0,1% і на першае студзеня 2012 года склаў 0,8% ад эканамічна актыўнага насельніцтва вобласці. На Віцебшчыне колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных скарацілася больш як на 20% - амаль на 4,3 тысяч чалавек. У той час як попыт на працоўную сілу вырас, служба занятасці мае звесткі больш як за 5,5 тысяч вакансіяў, што на 12% больш у параўнанні з дадзенымі гадавой даўніны. Сярэднеабласная статыстыка практычна не адрозніваецца ад сярэдніх паказчыкаў па нашаму раёну. Парадаксальна, але афіцыйная статыстыка сведчыць, што беспрацоўных няма, а колькасць вакансіяў павялічваецца – у рэгіёнах няма каму працаваць.

У такім выпадку паўстае законнае пытанне: куды ж дзяюцца людзі? Адказ на яго, мабыць, відавочны для ўсіх, хто мае рэальнае ўяўленне аб жыцці. Паводле афіцыйных СМІ, ідзе ўкараненне сучасных тэхналогіяў, таму колькасць работнікаў скарачаецца. Але навідавоку і другі бок справы. Людзі элементарна не жадаюць працаваць за мізэрныя заробкі і едуць туды, дзе плацяць больш вялікія грошы.

Аграпрамысловы комплекс раёна адчувае востры недахоп заатэхнікаў, ветэрынарных урачоў, аграномаў, эканамістаў, кіраўнікоў і спецыялістаў сярэдняга звяна, кадраў масавых прафесій.

Наогул кадравае пытанне сёння становіцца важным з найважнейшых для кіраўнікоў прадпрыемстваў цэлых галін эканомікі. Толькі добра падрыхтаваны і матываваны персанал здольны забяспечыць канкурэнтныя перавагі арганізацыяў, гатовы ўкараняць інавацыі. Але на жаль, наймаць кваліфікаваных работнікаў і тым больш утрымліваць іх у нашым раёне становіцца складаней, чым гэта было раней.

**Аляксандр Шчамлёў.**

НАША ЭКАЛОГІЯ

## Пакаранне за нелегальныя сметнікі

**У ходзе чарговага рэйду шумілінскія эколагі выявілі парушэнні заканадаўства з боку мясцовых жывелагадоўчых комплексаў, якія размешчаны ў водаахоўных зонах. Да адміністрацыйнай адказнасці былі прыцягнуты кіраўнікі шэрагу сельгаспрадпрыемстваў.**

Навядзенне парадку на зямлі – тэма не новая. Яе актуальнасць не здымаецца з парадку дня, а з надыходам высны па аб'ектыўных прычынах становіцца больш вострай. Менавіта вясной пад промнямі сонца практычана паўсюдна растаў снег, агаліўшы зямлю і ўсё тое смецце, што накапілася за восеньска-зімовы перыяд.

Спецыялісты раённай інспекцыі аховы навакольнага асяродзя сумесна з віцебскімі калегамі выявілі шматлікія парушэнні правілаў захоўвання ўгнаенняў, рацыянальнаму выкарыстанню вады.

Факты – упартая рэч. Непрыемнае ўражанне пакінулі пасля абследвання камісіяй тэрыторыі ферм Зямцы, Сіроціна, Мосарава сельгаспрадпрыемства "Сіроцінскі". Гноесховішчы адсутнічалі, на прыфермавых тэрыторыях узвышаліся цэлыя горы арганічных угнаенняў.

Аналагічныя парушэнні заканадаўства інспекцыя выявіла і ў прадпрыемстве "Ульскі", яшчэ напрыканцы мінулага года. За допушчаныя недахопы у рабоце да нядбайных кіраўнікоў гаспадарак былі задзейнічаны як дысцыплінарныя, так і адміністратыўныя рычагі ўплыву.

Разам з тым не змяншаецца колькасць нелегальных сметнікаў. Пры абследванні 101 міні-палігона было выяўлена 11 несанкцыянаваных звалак. Малюнак усюды аднолькавы – бытавыя адходы вывозяць у бліжэйшае кустоўе, дзе месцамі валяюцца пустыя бутэлькі, пакеты, шклянкі. На вінаватых адказных асоб накладзены штрафы на суму 2,3 мільёна рублёў.

Зрэшты, ліквідаваць нелегальныя звалкі – паўбяды. Праз год ці два ля пустых сядзіб, абапал дарог, у канцы агародаў яны будуць утвораны зноў. Як прымусіць людзей не рабіць новыя сметнікі? Штрафаваць? Згодна з артыкулам 15.63 КаАП «Парушэнне заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб адходах» прадугледжваюцца штрафы для фізічных асоб — ад 5 да 50 базавых велічынь, для індывідуальных прадпрымальні¬каў — да 100 базавых і для юрыдычных асоб — да 500 базавых велічынь. Але праблема яшчэ і ў тым, што складана даказаць, хто менавіта выкінуў смецце ў недазволеным месцы. Каб прыцягнуць чалавека да адказнасці, трэба злавіць яго за руку. Пакуль што да адміністрацыйнай адказнасці былі прыцягнуты ўсяго трое грамадзян нашага раёна. Затое за парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства былі пакараны 34 службовыя і 22 юрыдычныя асобы.

Як паказалі праверкі, "смеццевая" безгаспадарчасць пануе і ў вядучых прадпрыемствах раёна. Прычынілі шкоду навакольнаму асяроддзю Шумілінскі цэх ААТ "Малако", "Шумілінскі райагрысервіс", Обальскі керамічны завод, камунгас, прадпрыемства меліярацыйных сістэм.

Што тычыцца прыродаахоўных рэйдаў, то пажадана, каб яны праводзіліся выбарачна мэтанакіравана і нечакана. А калі патрэбна, дык і з прыцягненнем іншых службаў. І пасля рэйдаў павінны быць прыняты такія меры, каб у наступны раз пры кантрольным рэйдзе бязладдзя больш не было.

**С. Горкі.**

ПРАВАПАРАДАК

## ВАРТАЎНІК СПІЦЬ ДОМА, А СЛУЖБА ІДЗЕ

**У раёне даўно створана група з работнікаў міліцыі і адказных асобаў, якая правярае захаванасць таварна-матэрыяльных каштоўнасцей. Падчас апошняга рэйду рабочай групай было праверана нясенне службы вартавой ахоўай у гаспадарках аграпрамысловага комплексу.**

Ноччу вартаўнік на жывёлагадоўчай ферме, як кажуць, цар, бог і воінскі начальнік. Зразумела, пры патрэбе ён заўсёды можа звярнуцца за дапамогай у міліцыю – многія фермы ў раёне забяспечаны сістэмамі экстраннай сувязі, а расслабляцца варце не даюць рэгулярныя рэйды, праводзімыя аддзелам аховы правапарадку і прафілактыкі РАУС. Але на самай справе аказалася, да належнага парадку яшчэ далёка.

Выезд з райаддзела адбыўся апоўначы на ферму Цаўі. Старшаму інспектару аховы правапарадку Андрэю Шацілe вартаўніка доўга шукаць на давялося. Можна сказаць, што на гэтай ферме было ўсё ў парадку.

Зусім іншая карціну ўбачылі на ферме Рашэтнікі. Праз цэнтральныя вароты трапілі на ферму, дзе стаялі два трактары. Кабіна аднаго з іх не была замкнута. Абыйшлі ўсю тэрыторыю – ціха і спакойна. На настойлівы грукат у дзверы і вокны пакоя адпачынку ніхто не рэагаваў. Адсутнічаў вартаўнік на рабочым месцы і на ферме Убоіна, што належыць да гаспадаркі "Ульскі". І на гэты раз усё паўтарылася. Дзверы ў пакоі адпачынку зачынены, а ў памяшканні стаяць коні і калёсы без нагляду. Такую ""глухую абарону" можна ўвогуле лічыць парушэннем, тым больш, што перадусім сітуацыя была падобная.

Усяго падчас рэйду было праверана дзевяць сельскагаспадарчых аб'ектаў. Амаль на усіх фермах былі заўважаны недахопы. За выяўленыя парушэнні кіраўнікам гаспадарак уручаны прадпісанні. Як вядома, на рабочых нарадах старшыня Шумілінскага райвыканкама Уладзімір Куранны патрабуе жорсткай дысцыпліны на рабочых месцах, асабліва на стратэгічных аб'ектах. Кіраўніцтва раёна трывожаць нядбайныя адносіны да грамадскай маёмасці. Акрамя таго, ужо ёсць прыкрыя факты знаходжання незвярозых работнікаў. Дагэтуль на некаторых фермах няма тэлефона. Як у выпадку пажару, рабаўніцтва ці іншага здарэння начны вартаўнік будзе звяртацца за дапамогай? Вось і атрымліваецца, калі вартаўнік спіць дома, ды яшчэ п'яны, то і да бяды недалёка.

**Я. Вайтовіч.**

ПРАФІЛАКТЫКА

## Дарослых шумілінцаў таксама выхоўваюць

У райцэнтры прайшло чарговае пасяджэнне раённай камісіі грамадскага пункта аховы правапарадку. На гэты раз нашы чыноўнікі выхоўвалі аматараў спіртнога, абвязаных і непрацуючых асоб, сямейных дэбашыраў.

Насамрэч кола работы камісіі грамадскага пункта аховы правапарадку даволі шматграннае. У плане – рэйды, розныя мерапрыемствы выхаваўчай накіраванасці.

Вялікае значэнне надаецца прапагандзе прававых ведаў сярод насельніцтва, выяўленню асоб, схільных да супрацьпраўных дзеянняў, а таксама да тых, якія вядуць амаральны лад жыцця, злоў¬жываюць спіртнымі напіткамі, не займаюцца выхаваннем дзяцей. Дарэчы, з такімі грамадзянамі праводзяцца не толькі гутаркі, але і аказваецца дапамога ў працаўладкаванні, накіраванні на лячэнне ад алкагалізму. На асоб, патрабуючых да сябе выхаваўча-прафілактычнай работы, заведзены банк даных, які перыядычна папаўняецца.

Пасля ўдзелу ў рабоце падобных камісій, на якіх разглядаюцца паводзіны дарослых правапарушальнікаў, заўжды застаюцца цяжкія ўражанні.

Аднаму маладому чалавеку, які трапіў на «разбор» выпадкова, з-за нейкага недарэчнага ўчынку, было няёмка, даваў тлумачэнні, імкнуўся як мага хутчэй пазбавіцца такой ганьбы - апраўдвацца за свае паводзіны перад адказнымі асобамі. Упершыню быў запрошаны на размову і пажылы ўжо мужчына гадоў пад 60. Сумна было назіраць, як дарослыя людзі выкручваюцца, просяць прабачэння, прыдумваюць розныя апраўданні сваім учынкам.

Аднак некаторыя нават не лічаць патрэбным самім з'яўляцца на пасяджэнне. Апраўдвацца за аднаго мужчыну на пасяджэнне прыйшла маці. Як высветлілася, сын з'язджае на заробкі ў Расею, а калі вяртаецца на адпачынак дамоў, дык у п'яным угары праводзіць некалькі дзён запар. Як было заўважана, ёсць нямала спосабаў вырашыць падобны канфлікт і зрабіць вывады на будучае.

Зрэшты, пасяджэнні грамадскага пункта праводзяцца не толькі і не столькі, каб кагосьці пакараць. Галоўная мэта — дапамагчы канкрэтнаму чалавеку сысці з крывой жыццёвай дарогі. Асабліва тым людзям, якія некалі спатыкнуліся, але знайшлі ў сабе сілы, праявілі характар і сталі на шлях выпраўлення. Не застаўся па-за ўвагай членаў грамадскай камісіі былы асуджаны з адной аддаленай вёскі Лаўжанскага сельсавета. Калі піцідзесяцігадовы мужчына большую палову жыцця правёў за кратамі, дык хто цяпер такога возьме на працу? Але ж трэба чалавеку неяк жыць. Магчыма дасць шанс кіраўніцтва "Райагрaсервісу", калі ўладкуе яго рабочым.

Грамадскасць раёна, як і супрацоўнікі зацікаўленых структур, павінны быць у адказе за ўсё, што адбываецца навокал. Тут варта было б уносіць свой пасільны ўклад у барацьбу са страшнай праявай жыцця сучаснага грамадства – п'янствам. Галоўны ўрач раёна К. Бакнаў выказаў занепакоенасць ростам смяротнасці людзей па прычыне злоўжывання алкаголем. Аднак па ўсяму відаць, што ні тое грамадства, ні мясцовая ўлада амаль нічога не робіць для таго, каб прыпыніць неабмежаваны продаж спіртнога ў крамах. Хіба толькі правядуць для "паказухі" гэтак званы Дзень цвярозасці. Дарэчы, з аддзела эканомікі райвыканкама адзначылі, што за мінулы год у Шумілінскім раёне на душу насельніцтва прыпала больш за 30 літраў гарэлкі. Імклівая алкагалізацыя і дэградацыя працягваецца, а чыноўнікі толькі падлічваюць даходы ў бюджэт ды "выхоўваюць" грамадзян, якіх сама дзяржава і спойвае. Улада для народа?

**С. Горкі.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# Сфера, без якой нам не пражыць

**Па выніках дзейнасці шумілінскіх камунальнікаў відавочна, што вялікіх праблем пазбегнуць удалося. Аднак само аказанне паслуг насельніцтву, прадпрыемствам і гаспадаркам далёка не прыбытковае. Па- ранейшаму бюджэт кампенсуе большасць выдаткаў. Ці змогуць увогуле нашы камунальнікі зарабляць уласнымі сіламі і сродкамі?**

Жыллёва-камунальная гаспадарка –гэта асаблівая сфера, якая закранае кожнага. Таму што любы з нас хоча жыць у прыгожым і чыстым пасёлку, атрымліваць якасныя камунальныя паслугі. Цепла- і водазабеспячэнне, утрыманне аб'ектаў добраўпарадкавання, жылфонду і яго капітальны рамонт, добраўпарадчыя работы, азеляненне горада, уборка пад'ездаў шматкватэрных дамоў, вулічнае асвятленне. Гэта далёка не поўны пералік відаў дзейнасці жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

У апошнія гады ў камунальную службу раёна ўкладзена нямала сродкаў. За мінулы 2011 год з дзяржаўнага бюджэту было атрымана датацый на 16 мільярдаў рублёў. Акрамя гэтага на паліўна-энергетычныя рэсурсы жыллёва-камунальная гападарка вымушана была браць банкаўскія крэдыты. Адкуль будуць даходы, калі цяпер штомесячна за працэнты па крэдытах трэба выкласці 130 мільёнаў рублёў. Да таго ж спажыўцы аплочваюць паслугі не поўнасцю, а ўсяго да 20% ад іх сабекошту. Адначасова растуць патрабаванні, якія прад'яўляе насельніцтва выканаўчай уладзе па рабоце жыллёва-камунальных службаў, зніжэнню затрат у галіне, рэфармаванню структуры УП ЖКГ.

Па ўсяму бачна, што цэны на камунальныя паслугі дзяржава не стрымае. Але ж і насельніцтва не пабагацее. Ці ёсць яшчэ рэзервы выхаду з такой сітуацыі? У звязку з асноўнымі функцыямі гаспадаркі ў стратных галінах, камунальнікі могуць займацца яшчэ іншай пабочнай дзейнасцю. Да прыкладу, на новым узроўні наладзілі сувязі з будаўнікамі ПМК-70 і райбыткамбінатам, якія адліваюць ажурныя пліты для агароджы. Частку расады для азелянення камунальнікі навучыліся вырошчаваць самі.

Якія праблемы на сённяшні дзень у рабоце шумілінскіх камунальнікаў на месцах?

Як вядома, ЖКГ у большасці сельскіх раёнаў фінансуецца па рэштакваму прынцыпу.

Таму на парадку дня вострa стаіць пытанне замены цеплассетак. У мінулым годзе замянілі 1,6 км цеплассетак, а два гады таму – 3,5. Сёлета запланавана замена 3,5 км трасы ў гарпасёлку Обаль. Пры ўсім тым шмат сіл і сродкаў трэба для арганізацыі работ па замене і водаправоднай сеткі. Занадта многа прагнілых труб з'яўляюцца непасрэднай прычынай частых парываў. Апроч таго, не хапае матэрыялаў для рамонту, з-за чаго зрываюцца графікі работ. Усё гэта часта не падцверджана фінансавымі планамі і ствapae залішнюю нервознасць у рабоце.

Як бы там ні было, але пэўныя зрухі ёсць. Да прыкладу, у мікраpaёне каля СШ № 2 нарэшце збудавалі калектар, і жыхары дамоў маюць магчымасць падключыцца да яго. Якія напрамкі дзейнасці для шумілінскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі станyць прыярытэтнымі ў 2012 годзе? Можна ўпэўнена сказаць, што цяпер развіваецца транспартны цэх гаспадаркі. Ужо закупілі новую тэхніку: трактар "Амкадор", дзве машыны УАЗ, па лізінгу быз дастаўлены МАЗ. Даўно наспела неабходнасць перадачы 16 кацельняў ад аддзела адукацыі камунгасу.

Яшчэ адна агульнавядомая праблема — неплацяжы насельніцтва. Прыкладна 52 працэнты неплацельшчыкаў — гэта працуючыя і працаздольныя грамадзяне. Плюс — запазычанасці прадпрыемстваў.

Дарэчы, кіраўніцтва Беларусі ўвесь час падкрэслівае той факт, што насельніцтва краіны праплочвае толькі 25% сабекошту камунальных паслугаў, а астатнія 75% праплочвае за нашых грамадзян з бюджэту дзяржава. І падаецца гэта як "дабрачыннасць". Але ці так яно? У напаўненні бюджэту ўдзельнічае ўсё насельніцтва краіны. Аднак у найлепшым становішчы тут знаходзяцца найбольш багатыя грамадзяне краіны, тыя, хто мае ва ўласнасці або карыстанні па некалькі кватэр або кватэры з вялікімі жылёвымі плошчамі, падключаныя да камунальных выгод. Зразумела, што ў гэты разрад уваходзяць і шматлікая армія чыноўнікаў. І, што парадаксальна, найменш выдзяляецца сродкаў з бюджэту на пакрыццё сабекоштаў камунальных паслугаў бяднейшым слаям насельніцтва, сацыяльна найменш абароненым, тым, хто жыве ў маленькіх кватэрах, у сваіх прыватных дамах, непадключаных да камунальных выгод, асабліва — ў сельскай мясцовасці. Таму пры павышэнні коштаў на камунальныя паслугі багатыя яшчэ больш пабагацеюць, а бедныя зусім збяднеюць. А камунальныя гаспадаркі на месцах стануць яшчэ больш стратнымі ад таго, што павялічыцца армія неплацельшчыкаў. Ці не пара падумаць аб рэфармаванні сістэмы аплаты працы, з перадачай сродкаў, паступаючых з бюджэту на пакрыццё сабекошту камунальных паслугаў, у фонды аплаты працы і сацыяльных выплат? А людзі ўжо самі будуць вырашаць, каму, колькі і за якія паслугі плаціць.

**Алесь Шумскі.**

МЁРТВЫ СЕЗОН

# ПАЛЯЎНІЧЫМ НЕ ХАПІЛА ЧАСУ

**Забаронены ўсе віды палявання Шумілінскаму раённаму дзяржаўна-грамадскаму аб'яднанню "Беларускае грамадства паляўнічых і рыбаловаў". Такія санкцыі прымянілі да шумілінскіх паляўнічых віцебскія эколагі.**

Вета на паляванне ўстаноўлена ў сувязі з адсутнасцю праекта ўпарадкавання паляванння і заканчэннем тэрміна біялагічна-эканамічнага абгрунтавання. Аб санкцыях эколагаў папярэджаны абласныя інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету і раённыя улады. Як паказалі кантрольныя ўлікі колькасці паляўнічых жывёл у бягучым годзе, зменшылася пагалоўе капытных у трох гаспадарках для палявання на тэрыторыі раёна. Пры гэтым узрасла папуляцыя ваўкоў. Аднак, як паказваюць разлікі ў абласным камітэце прыродных рэсурсаў, значнага змяншэння колькасці дзікіх жывёл у 2012 годзе не прадбачыцца. Спецыялісты сцвярджаюць, што сёлетні зімні сезон быў больш спрыяльны, чым папярэдні.

**Алесь Прыбярэжны.**

ПРАБЛЕМА БЯСПЕКІ

# БЯСПЕЧНАЯ ДАРОГА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**У сувязі з павелічэннем колькасці дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам непаўналетніх пешаходаў з 19 па 26 сакавіка супрацоўнікі Дяржаўтаінспекцыі праводзілі акцыю. Падчас акцыі праводзіліся прафілактычныя рэйды на дарогах нашага раёна.**

З кожным месяцам дарожная сітуацыя ў нашым раёне пагаршаецца. Калі раней больш-менш дысцыплінаваныя вадзіцелі страліся прапусціць пешаходаў, то цяпер пераходзіць дарогу ў межах пешаходнага пераходу рызыкоўна. Да таго ж, як паказала практыка,стала небяспечна проста ісці па ходніках паблізу праезжай часткі дарогі. Наогул, самі па сабе безадказныя паводзіны людзей на дарозе як вадзіцеляў, так і пешаходаў нярэдка прыводзяць да трагічных вынікаў.

Супрацоўнікі дарожна-патрульнай службы вырашылі дапамагчы грамадзянам паводзіць сябе ў межах Правілаў дарожнага руху. Прафілактычная акцыя пад назвай "Бяспека дзяцей на дарогах залежыць ад дарослых" праводзілася на вуліцах і перакрыжаваннях райцэнтра і іншых пасёлкаў.

Так, у ходзе дзяжурства на перакрыжаваннях дарог па вуліцах Кароткіна-Сіпко інспектарамі ДАІ былі выяўлены тры вадзіцелі, якія не прапусцілі пешаходаў праз пешаходны пераход. На парушальнікаў быў накладзены штраф у памеры ад адной да пяці базавых велічынь.

Пры нясенні службы ў вёсках Сіроціна і Мікалаёва былі заўважаны два пешаходы, якія рухаліся без флікера ў цёмны час сутак. Адзін вясковец наогул ішоў пасярод дарогі. Усе трое былі на падпітку. Ім таксама пагражае штраф да пяці базавых велічынь.

Часта даводзіцца назіраць, як людзі бяпечна адносяцца да свайго жыцця. Не толькі на вопратцы, але і на роварах, або на гужавых павозках часам няма ніякіх святлоадбіваючых элементаў. Відавочна, пакуль грамадзяне самі не ўсвядомяць праблему бяспекі на дарогах, сітуацыя наўрад ці памяняецца да лепшага.

**Уладзімір Амбросаў.**

ЗДАРЭННІ

# ДВА ЧАЛАВЕКІ ЗАГІНУЛІ Ў ДАРОЖНА-ТРАНСПАРТНЫМ ЗДАРЭННІ 26 САКАВІКА КАЛЯ ВЁСКІ ГУБІЦА

На 47 кіламетры аўтадарогі Віцебск- Полацк, паблізу вёскі Губіца 31-гадовы мужчына, кіроўца легкавіка "Рэно-Лагуна" пры абгоне выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з аўтамашынай "МАЗ". У выніку кіроўца легкавіка і пасажыр 1957 года нараджэння загінулі. Абое – жыхары горпасёлка Шуміліна.



З ЗАЛЫ СУДА

# "ЛЁГКІ" ХЛЕБ

**Паводле судовых пастановаў па крымінальным справам пракуратуры Віцебскай вобласці, жыхарка Шумілінскага раёна ўцягнула сваю стрыечную сястру ў занятак прастытуцыяй.**

Адна жанчына 1984 года нараджэння, якая паходзіла з Шуміліншчыны, на працягу некалькіх гадоў займалася прастытуцыяй у Маскве. У 2008 годзе ўгаварыла сваю васемнаццацігадовую сястру паехаць з ей на працу прадаўшчыцай. Аднак, калі маладзіцы прыехалі, то аказалася, што гандлёвых вакансій для малавопытнай вясковай жыхаркі ў Маскве няма. Затое адразу знайшлася праца ў сферы інтымных паслуг у горадзе Падольску Маскоўскай вобласці. Дзяўчына адразу прыняла прапанову і некалькі гадоў адпрацавала прастытуткай.

Пасля праверкі апэратыўнай інфармацыі, якая паступіла па гэтаму факту ў праваахоўчыя органы, у адносінах да "прадпрымальнай" грамадзянкі Шумілінскага раёна была ўзбуджана крымінальная справа. За вярбоўку да заняткаў прастытуцыяй жанчына пакарана судом да аднаго года і шасці месяцаў пазбаўлення волі.

НАША ГІСТОРЫЯ

# ЗБРОЯ І ДАСПЕХІ СЯРЭДНЯВЕЧЧА

**У Шумілінскім краязнаўчым музеі ладзілі выстаўку сярэдневяковых даспехаў і ўзбраення. Сюды прывезлі элементы засцерагальнага і наступальнага ўзбраення часоў Полацкага княства і Вялікага Княства Літоўскага.**

Умоўна экспазіцыю можна падзяліць на дзве часткі– баявыя пакрыцці цела ваяра і зброя. Сярод засцерагальнага ўзбраення адразу кідаюцца ў вочы даспехі 10-16 стагоддзя. Здаецца, што якісьці рыцар толькі на хвілінку расстаўся з імі і вось-вось вернецца за сваім жалезным адзеннем, каб апрануцца і рушыць насустрач новым подзвігам.

Вядома, у пераважнай большасці гэта ўзбраенне нашых вояроў, але таксама з выставы можна даведацца, у чым ішлі ў бой і крыжакі. А яшчэ наведвальнікі выставы маглі памацаць рэчы, пра якія чыталі толькі ў гістарычнай лі¬таратуры: кісцень, алебарда, суліца. Усе гэтыя экспанаты - вырабы ўдзельнікаў тэатра гістарычнага строю "Полацкі звяз". Тэатр займаецца гістарычнай рэканструкцыяй дзесяць гадоў. Зараз зрабіць усё гэта нялёгка. Кожны даспех, экспанат патрабуе каласальных фізічных і часовых затрат. Усё робіцца рукамі, каб было гістарычна дакладна. А зараз сучасныя майстры і удзельнікі клуба выкарыстоўваюць даспехі на гістарычных імпрэзах і рыцарскіх турнірах.

# "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

ЕЎРАПЕЙСКІ НАПРАМАК

# ПАШЫРЭННЕ САНКЦЫЙ ЕС ДАТЫЧЫЦЬ БІЗНЭСУ, ШТО ПАДТРЫМЛІВАЕ РЭЖЫМ

У ВЫНІКОВЫМ ДАКУМЕНЦЕ, ПРЫНЯТЫМ 23 САКАВІКА Ў БРУСЕЛІ НА ПАСЯДЖЭННІ САВЕТА МІНІСТРАЎ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ КРАІН ЕС, ЗАЗНАЧАЕЦЦА: СПІС ПРАДСТАЎНІКОЎ БЕЛАРУСІ, СУПРАЦЬ ЯКІХ ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ САНКЦЫІ, ПАШЫРАНЫ ЗА КОШТ «ЛЮДЗЕЙ, АДКАЗНЫХ ЗА СУР'ЁЗНЫЯ ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА АБО РЭПРЭСІІ Ў ДАЧЫНЕННІ ДА ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ І ПАЛІТЫЧНАЙ АПАЗІЦЫІ».

Савет ЕС таксама прыняў рашэнне аб уключэнні ў спіс бізнесменаў і кампаній, якія «атрымліваюць выгаду ад рэжыму або падтрымліваюць яго», і пакідае за сабой магчымасць далейшага пашырэння абмежавальных мер на сваіх наступных пасяджэннях, калі палітзняволеныя не будуць вызвалены.

Еўрасаюз зноў заклікае беларускія ўлады неадкладна вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных.

У дакуменце асуджаецца адмова ў задавальненні касацыйнай скаргі праваабаронцы Алеся Бяляцкага і асуджэнне на два гады і адзін месяц пазбаўлення волі актывіста апазіцыі Сяргея Каваленкі. Апрача таго, гаворыцца аб «сур'ёзнай занепакоенасці ЕС» адносна інфармацыі аб магчымым прымяненні катаванняў і жорсткім абыходжанні ў дачыненні да палітзняволеных у турмах, у тым ліку да Андрэя Саннікава, Мікалая Статкевіча, Дзмітрыя Бандарэнкі, Дзмітрыя Дашкевіча і Мікалая Аўтуховіча.

Савет ЕС асудзіў прывядзенне ў выкананне смяротных прысудаў Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву, зноў заклікаў беларускія ўлады да ўвядзення мараторыя на смяротную кару і зазначыў, што Еўрасаюз выступае супраць гэтага віду пакарання пры любых акалічнасцях.

Еўрасаюз зноў заклікаў беларускія ўлады спыніць усякі праслед прадстаўнікоў апазіцыі, грамадзянскай супольнасці, праваабаронцаў, журналістаў і не абмяжоўваць іх свабоду перамяшчэння. «ЕС асуджае задушэнне мірных пратэстаў і сістэматычнае выкарыстанне судовай сістэмы для рэпрэсій, у тым ліку ў дачыненні да мірных пратэстантаў, — гаворыцца ў дакуменце. — ЕС таксама моцна занепакоены зменамі ў заканадаўстве, якія яшчэ больш абмяжоўваюць правы беларускіх грамадзян на свабоду сходаў, асацыяцый і доступу інфармацыі ў сетцы інтэрнэт».

Апрача таго, ЕС мае намер праінфармаваць міжнародную і нацыянальныя хакейныя федэрацыі аб «адсутнасці ў Беларусі павагі да правоў чалавека, вяршэнства закону і дэмакратычных прынцыпаў».

У дакуменце зазначаецца, што ЕС «глыбока прыхільны падтрымцы беларускага народа і грамадзянскай супольнасці і супрацоўніцтву з імі, а таксама дэмакратычным памкненням беларусаў». Савет ЕС вітае рашэнне аб запуску праграмы Еўрасаюза «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі» з беларускім грамадствам, якая прадугледжвае неабходныя рэформы ў Беларусі, а таксама магчымую падтрымку ЕС у сувязі з гэтым.

Еўрасаюз таксама заклікае беларускія ўлады пачаць нацыянальны дыялог з грамадзянскай супольнасцю і апазіцыяй, каб «пракласці шлях» для правядзення парламенцкіх выбараў у 2012 годзе ў адпаведнасці з міжнароднымі нормамі і стандартамі, заклікае супрацоўнічаць з АБСЕ і прытрымлівацца ўзятых на сябе абавязацельстваў як краіна — удзельніца гэтай арганізацыі, паведамляе БелаПАН.

ЕС зноў заяўляе пра сваю гатоўнасць пачаць перамовы па пагадненнях аб аблягчэнні візавага рэжыму і аб рэадмісіі, якія «ўмацавалі б кантакты паміж людзьмі, што пайшло б на карысць жыхарам Беларусі», і шкадуе «аб неканструктыўнай пазіцыі беларускіх уладаў, якія не адказалі дагэтуль на ліст, накіраваны ў чэрвені 2011 года, што заклікаў пачаць перамовы».

ДЗЕНЬ ВОЛІ

# ПЛЕБІСЦЫТ У ІМЯ БЕЛАРУСІ

СВЯТКАВАННЕ ДНЯ ВОЛІ – ГЭТА ПУБЛІЧНЫ АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНЫ ЎРОК ГІСТОРЫІ, ПЛЕБІСЦЫТ БЕЛАРУСАЎ НА ВЕРНАСЦЬ ПАМЯЦІ ПРОДКАЎ, НАЙВЫШЭЙШАЯ ПРАЯВА СІЛЫ БЕЛАРУСКАГА ДУХУ І ПРАГІ ДА СВАБОДЫ.

Любая форма адзначэння гэтага Свята – годная і патрэбная.

Але толькі ў супольным парыве, талакой, беларусы патрапляюць рабіць больш і найлепш, дасягаць амаль немагчымага.

Асабліва важным ёсць шанаванне нашага Свята сёння - у варунках дыктатуры і дзяржаўнага праследу беларусаў-патрыётаў.

Святкаваць Дзень Волі –

- гэта віншаваць блізкіх і сяброў;
- гэта аздобіць нацыянальнымі сімваламі дом, машыну, вопратку;
- гэта ўшанаваць памяць герояў Беларусі;
- гэта праявіць салідарнасць з сённяшнімі змагарамі, асабліва з тымі, хто, як Зміцер Дашкевіч, Сяргей Каваленка, Мікола Статкевіч, Андрэй Саннікаў, Павел Севярынец ды іншыя палітвязні, несправядліва кінуты за краты турмаў;
- гэта ладзіць адмысловыя выставы, чытанні і канферэнцыі;
- гэта сабрацца за святочнай бясёдай;
- гэта размаўляць на мове продкаў і пісаць дыктоўкі па неўміручых тэкстах;
- гэта збірацца на мітынгі і ісці шэсцямі па вуліцах гарадоў, мястэчак ды вёсак.

Ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі – вельмі актуальныя для нас сёння і будуць такімі надалей. Нам след будаваць сапраўды Беларускую і сапраўды Народную Рэспубліку, нашу краіну, дзе мы гаспадары. БНР – не простa сімвал, а альтэрнатыва РБ. Каштоўнасць незалежнасці – абсалютная для вольнага народу. Наша дзяржаўніцкая традыцыя і намаганні, зробленыя дзеля еянага аднаўлення і захавання, - унікальныя.

Беларусь жыве і будзе жыць тады, калі яна не толькі жыве, але і дынамічна развіваецца, стварае найлепшыя ўмовы для самарэалізацыі сваіх грамадзянаў, шануе сваю мову, культуру і знаходзіць паразуменне сярод суседзяў.

Беларусы!

Згадайма, як бягуць мурашы па скуры пасля магутнага воклічу "Жыве Беларусь"!

Згадайма, як трымцiць сэрца ад гонару за велічна ўзняты бел-чырвона-белы сцяг са святой "Пагоняй"!

Каму, як не нам, абараняць нашу незалежнасць, свабоду, мову і права на годнае жыццё!

Мы маем шанец выйсці ў Дзень Волі на галоўны праспект сталіцы, каб прадэманстраваць нашу пашану да гісторыі і рашучасць дзеля будучыні.

Будзьма ж разам 25 сакавіка на Акадэміі Навук! Хай наш сцяг лунае над галовамі і натхняе нас на лепшае.

Жыве Беларусь!

**Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ.**

ПАМЫЛКОВЫ АДКАЗ

# Эксперт: Ермакова атаясамляе сябе з Маўродзі

КІРАЎНІК АНАЛІТЫЧНАГА ЦЭНТРА «СТРАТЭГІЯ» ЛЕАНІД ЗАІКА НАЗВАЎ ПАМЫЛКІ КІРАЎНІКА НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ НАДЗЕІ ЕРМАКОВАЙ, ЗА ЯКІЯ, У СВОЙ ЧАС, СТАВІЎ СТУДЭНТАМ «ДВОЙКІ».

У ходзе «прамой лініі» у газеце «Рэспубліка», якая была апублікаваная, кіраўнік Нацбанка Беларусі Надзея Ермакова заявіла, што «заканадаўствам не прадугледжана кампенсацыя укладчыкам тых грошай, якія абясцэньваюцца ў працэсе інфляцыі».

Разам з тым, яна сказала, што Беларусь - гэта справядлівае дзяржава, і абгрунтавала сваё меркаванне: «Улічваючы тое, што многія грамадзяне ў мінулым годзе сапраўды панеслі пэўныя страты ў сувязі з дэвальвацыяй і высокай інфляцыяй, дзяржавай зараз актыўна прымяняюцца іншыя кампенсацыйныя механізмы - павялічваюцца пенсіі, дапамогі, расце заработная плата».

Вядомы беларускі эканаміст Леанід Заіка лічыць, што кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі «зрабіла вельмі дрэнную рэч». Як сказаў эксперт карэспандэнту сайта «Таварищ.online», «яна атаясамляе сябе з Маўродзі. Як навуковец, спецыяліст у галіне эканамічнай тэорыі хачу падкрэсліць, што насельніцтва страціла ад дэвальвацыі ».

Паводле яго слоў, насельніцтва да 2011 года аддавала грошы, якія ў міжнародных супастаўленнях маглі раўняцца, умоўна, 3 мільярдам даляраў. «А вось пасля дзеянняў Нацбанка, праўда, сама Ермакова да гэтага не датычная, трэба быць сумленным, замест 3 мільярдаў застаўся адзін. Гэта значыць свае абавязацельствы банкі не выканалі, але не выканалі па прычыне памылак менавіта Нацыянальнага банка», - пераканаы эканаміст.

Ён кажа, што калі б Беларусь была краінай з моцнай прававой сістэмай, то індэксаваць прыйшлося б. А меркаванне Ермаковай аб павышэнні, лічыць некампетэнтным. «Нейкія выплаты, рост заробкаў і пенсій не маюць ні-я-ка-га дачынення да пытання кампенсацыі. У гэтым галоўная тэарэтычная памылка спадарыні Ермаковай, - заяўляе Заіка. - Зберажэнні не маюць ніякага дачынення да грашовых патокаў, да патокаў даходаў, якія ствараюцца цяпер. За такія памылкі я ў свой час ставіў "двойкі" студэнтам, сярод якіх, напэўна, былі і калегі Ермаковай».

ШТУЧНЫ КУРС

# КУРС РУБЛЯ ОПЯТЬ ПОДДЕРЖИВАЕТСЯ ИСКУССТВЕННО

В МАРТЕ СПРОС НА ДОЛЛАРЫ ПРЕВЫСИЛ ПРЕДЛОЖЕНИЕ. ЧТОБЫ НЕ ДОПУСТИТЬ ОСЛАБЛЕНИЯ БЕЛОРУССКОГО РУБЛЯ, НАЦИОНАЛЬНОМУ БАНКУ ВНОВЬ ПРИШЛОСЬ ПРИБЕГНУТЬ К ВАЛЮТНЫМ ИНТЕРВЕНЦИЯМ.

Такой вывод делает interfax.by, основываясь на данных Белорусской валютно-фондовой биржи. В период с 1 по 26 марта на торгах БВФБ валовый спрос на доллары превысил предложение почти на 94 миллиона USD. По логике курс белорусского рубля по отношению к американской валюте должен был снизиться. Но на практике он вырос, хотя и незначительно, что «свидетельствует о возобновлении валютных интервенций со стороны НББ после почти 4-месячного перерыва».

Есть и другие основания полагать, что курс рубля поддерживается искусственно. Как пишет «Белгазета», «показатели денежной массы пошли в гору обескураживающими темпами».

В феврале объём наличных денег (показатель М0) увеличился на 12,7%, денежный агрегат М1 – на 13,4%, рублевая денежная масса (М2) – на 9%. Широкая денежная масса на начало марта составила 114,9 триллиона рублей – большего показателя М3 в истории Беларуси не было.

Тем, для кого все эти М0, М1 и так далее – темный лес, поясним: печатный станок вновь включился. И это еще до посевной, на которую потребуется почти 10 триллионов рублей.

Кстати, инфляция в Беларуси с начала года составила уже около 5%, а вот рубль за этот же период не подешевел, а подорожал по отношению к доллару более, чем на 4%. Обычно так не бывает.

Однако всё это цветочки по сравнению с нашими «блестящими» перспективами. Помимо валютных интервенций на бирже, Национальный банк сейчас стерилизует рублевую массу посредством депозитов и краткосрочных облигационных займов аж под 30%. Но долго так продолжаться не может. Тем более, что уже объявлено про планируемое снижение ставки рефинансирования. А вместе с ней упадут и проценты по депозитам, как для субъектов хозяйствования, так и физических лиц. Что автоматически сделает вклады в национальной валюте менее привлекательными. В результате часть держателей начнет избавляться от белорусских рублей. Возрастет спрос на иностранную валюту. А в итоге – очередная девальвация: плавная или обвальная.

Даже если вышеизложенный сценарий каким-то чудом удастся предотвратить, рубль это в среднесрочной перспективе не спасает. Реформы в экономике вновь отложены в долгий ящик, а это значит, что причины, которые привели к девальвациям 2009 и 2011 гг., не устранены, пишет «Салідарнасць». Более того, власти вновь собственноручно организовывают очередной кризис, настаивая на повышении зарплаты до 500 долларов в течение года. Так что, очередной обвал белорусского рубля – это лишь вопрос времени.

СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

# ЧАМУ БЕЛАРУСЫ СМУТКУЮЦЬ АБ СВАІХ ТЭРАРЫСТАХ?

КАВАЛЁВА І КАНАВАЛАВА ПРЫЛІЧЫЛІ ДА АХВЯРАЎ ВЫБУХУ, ЗА ЯКІ ІХ РАССТРАЛЯЛІ.

Рэакцыя беларусаў, якія лічаць, што віна Кавалёва і Канавалава не была даказаная, выявілася вельмі хутка. У сацыяльных сетках многія тут жа паставілі аватары з жалобнай стужкай і надпісам «15 +2 = 17»: да пятнаццаці якія загінулі ў выніку выбуху народ дадаў яшчэ двух. Беларускія сучасныя мастакі зрабілі некалькі плакатаў, на адным з якіх твар Кавалёва заліта крывёю, паэты напісалі вершы-рэквіемы. У «Фэйсбуку», на старонцы Тацяны Кавалёвай, сястры Уладзіслава, людзі пакідаюць спачуванні, падобныя адзін на аднаго - прыміце шчырыя спачуванні, трымайцеся, смуткуем.

Партрэт пакаранага Уладзіслава Кавалёва з'явіўся каля станцыі метро «Кастрычніцкая» ў Менску, на якой адбыўся выбух 11 красавіка 2011 года. Побач з выхадам са станцыі ўстаноўлена мемарыяльная таблічка, мінчане ўжо год нясуць да яе кветкі ў памяць аб загінуўшых. Партрэт Кавалёва з жалобнай стужкай прастаяў некалькі дзясяткаў хвілін, да яго паспелі паставіць запаленую царкоўную свечку і ўскласці кветкі. Пасля гэтага чалавек у цывільным, праўдзівы род заняткаў якога выдаваў слухаўка сувязі ў вуху, партрэт панёс, а двух мінчанак, якія спрабавалі пакінуць па дзве гваздзікі каля яго, адвялі ў стаялы непадалёк мікрааўтобус.

Нарад АМАПу дзяжурыць у Віцебску ў дамоў, дзе жылі Кавалёў і Канавалаў, да пад'езда не падпускаюць людзей з жалобнымі букетамі, некалькі чалавек затрымалі, але пазней адпусцілі без складання пратаколу. Суседзі сям'і Кавалёвых ўвесь вечар ішлі да маці пакаранага з выразам спагады, а камусьці з віцябчан атрымалася патрапіць у дом і ўскласці кветкі з чорнай стужкай і паставіць запаленую свечку ў кватэры Кавалёвых. Некалькі свечак стаіць і ў школы, дзе вучыліся пакараныя. Днём у нядзелю партрэт Кавалёва павесілі ў пераходзе ў віцебскай плошчы Перамогі, дзе адбыўся адзін з выбухаў, у якіх абвінавацілі Кавалёва і Канавалава.

Кветкі і партрэт аднаго з пакараных па справе аб выбуху ў мінскім метро з'явіліся ля амбасады Беларусі ў Францыі. У Вільні беларускую амбасаду «закавалі ў кайданкі» - замацавалі іх паміж прутамі агароджы, гэта мае на ўвазе, што Беларусь - паліцэйская дзяржава. У Брусэлі на беларускай амбасадзе зроблена графіці чырвонай фарбай: «Гэта пасольства забойцы Лукашэнка, а не краіны Беларусь».

Каля амбасады Беларусі ў Маскве ўзмоцнена ахова, супрацоўнікі асцерагаліся несанкцыянаваных акцый. Да будынку амбасады на Марасейцы вечарам у суботу і ўсё нядзелю прыходзілі людзі, прынасілі кветкі і свечкі да партрэтаў пакараных. Было праведзена некалькі адзіночных пікетаў. Людзі стаялі з плакатамі «Супраць смяротнага пакарання!» і «Іх забілі па капрызе Лукашэнку!». А позна вечарам сабраліся каля 40 чалавек, якія ўсклалі кветкі і запалілі памінальныя свечкі.

Маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва ўпэўненая, што з яе сынам расправіліся, каб схаваць сляды страшнага злачынства. Яна заявіла, што будзе змагацца супраць тых, хто сапраўды падарваў бомбу ў метро:

-Яны з ім ўправіліся, таму што Уладзік ў судзе праўду сказаў. Хто вінаваты? Толькі не гэтыя хлапчукі. З Уладам яны разлічыліся толькі за тое, што праўда выйшла. Яны не чакалі. Яны Уладу прыгразілі. Калі Улад памяняе паказанні ў судзе, яго чакае вышэйшая мера. Улад не спалохаўся. Ён усё гэта распавёў. Зразумейце, усё пайшло не па сцэнары. І цяпер усё гэта выйшла вонкі. Яны выдатна ведаюць, хто гэта зрабіў, хто падарваў метро. Ні Уладу, ні Дзімку гэта не трэба было, зразумейце! Я думаю, што зараз, дзякуючы ўсяму гэтаму, увесь свет падымецца і будзе расследаванне сапраўды так, як трэба, а не проста, што я адна тут змагалася, што я адна супраць іх ішла. Яны мне адпомсцілі, разумееце? Гэта проста помста маці. Цяпер я думаю, што сапраўды не спынюся ні перад чым. Здзіўляе паспешлівасць, з якой прысуд быў прыведзены ў выкананне: аб тым, што Лукашэнка адмовіў Кавалёву ў памілаванні стала вядома толькі 14 сакавіка, і ўжо праз два дні асуджаных расстралялі, нягледзячы на тое, што не былі нават выкананыя прававыя працэдуры. Праваабаронца Тацяна Равяка здзіўляецца:

- Беларускія ўлады захацелі падмануць нават камітэт па правах чалавека ААН, таму што паведамлялі, што скарга ў камітэт па справе Кавалёва і Канавалава не можа быць разгледжана, паколькі спачатку павінны быць выкарыстаныя ўсе нацыянальныя механізмы - наглядная скарга і памілаванне. Аднак, як усе ўжо ведаюць, адвакатам не далі магчымасці падаць наглядную скаргу, і, каб пазбегнуць ўздзеяння ААН, маментальна пакаралі смерцю асуджаных.

Эксперты мяркуюць, што такое грэбаванне міжнароднымі прававымі нормамі і настойлівымі заклікамі Еўрасаюза адмовіцца ад пакарання Кавалёва і Канавалава, пацягне за сабой сур'ёзныя наступствы для Лукашэнкі з боку Захаду.

Спікер Еўрапарламента Марцін Шульц выступіў з рэзкім асуджэннем расстрэлу Уладзіслава Кавалёва:

- Я шакаваны паведамленнем аб расстрэле Уладзіслава Кавалёва ў Беларусі. Ад імя Еўрапейскага парламента я шлю спачуванні яго сям'і. Я глыбока шкадую, што беларускія ўлады не прыслухаліся да заклікаў спыніць выкананне смяротнага прысуду з боку структур ЕС і міжнародных праваабарончых арганізацый. Я заклікаю ўлады Беларусі праявіць чалавечую годнасць і вярнуць цела сям'і. Пахаванне ў ананімнай магіле проста агідна і недапушчальна ў Еўропе 21 стагоддзя.

З асуджэннем пакарання выступілі таксама старшыня ПАСЕ Жан-Клод Міньён, генеральны сакратар СЕ Турб'ерн Ягланд, міністр замежных спраў Германіі Гіда Вестэрвеле, а таксама кіраўнік ведамства канцлера Ангелы Мэркель - Рональд Пафала. Міністр замежных спраў Галандыі Уры Розенталь не толькі асудзіў дзеянні беларускіх уладаў, але і выступіў з заклікам да неадкладнага ўжывання санкцый.

Нагадваем, што пасля таго, як Лукашэнка адмовіўся памілаваць Кавалёва, Еўрапарламент даў беларускаму прэзідэнту час падумаць і перамяніць сваё рашэнне, адклаўшы галасаванне па праекце рэзалюцыі аб сітуацыі ў Беларусі на канец месяца. Цяпер жа, пасля таго, як гэты жэст быў праігнараваны, нічога не перашкаджае еўрапарламентарыям канчаткова прагаласаваць за ўвядзенне палітычных і эканамічных санкцый у дачыненні да рэспублікі.

**20.03.**
**svpressa.ru/society/article/53649/**

АЗІЯЦКІ НАПРАМАК

# ПОЧЕМУ В МОСКВЕ ЛУКАШЕНКО КУСАЛ ГУБЫ?

ГЛАВНЫМ ИТОГОМ САММИТА ЕВРАЗЭС СТАЛО РЕШЕНИЕ ПОВРЕМЕНИТЬ С ЛИКВИДАЦИЕЙ ЭТОЙ ОРГАНИЗАЦИИ. ГЛАВА БЕЛАРУСИ ПРЕБЫВАЛ В МОСКВЕ НЕ В ЛУЧШЕМ РАСПОЛОЖЕНИИ ДУХА, А НА ФОТОГРАФИЯХ ВИДНО, КАК АЛЕКСАНДР ЛУКАШЕНКО ДАЖЕ КУСАЕТ ГУБЫ. ПОЧЕМУ БЕЛОРУССКОЕ РУКОВОДСТВО ЧУВСТВУЕТ СЕБЯ ДИСКОМФОРТНО?

По мнению политического обозревателя еженедельника «Белорусы и рынок» Павлюка Быковского, участникам саммита не удалось договориться по основным вопросам и это свидетельство «достаточно серьезных противоречий». Странам-партнерам России есть что терять — значимую часть суверенитета.

**Придется пускать предприятия с молотка**

— А белорусская сторона, наверное, не смогла получить ни очередного транша кредита от Антикризисного фонда ЕврАзЭС, ни обещаний на сохранение серьезных преференций со стороны России на ближайшее будущее, — отмечает эксперт.

То, что известно широкой аудитории о ценах на газ, не в полной мере выглядит как однозначно выигрышная позиция для белорусской стороны. Ведь там есть и такой пункт, как возможность потребовать от белорусской стороны одномоментно выкупить все акции «Белтрансгаза». Что касается нефти, то пошлины, которые Беларусь вынуждена платить в российский бюджет, во многом снимают ту выгоду, которую страна получила, согласившись вступить в этот евразийский проект.

У загвоздки в получении последнего транша кредита АКФ ЕврАзЭС есть официальные объяснения, касающиеся невыполнения белорусской стороной обязательств по госпрограммам — поддержке за счет бюджета отечественных производителей, например.

— Государственные программы превышают разрешенный кредитным соглашением объем. И уже это достаточное основание, чтобы не перечислять очередной транш кредита, — напоминает Павлюк Быковский.

Белорусское руководство вынуждено пускать с молотка ряд предприятий: на два с половиной миллиарда долларов надо продать собственности, поскольку это одно из условий получения дальнейших траншей кредита.

— Сейчас, когда идет холодная война с Западом, для российского капитала скупка привлекательных белорусских активов — просто дело техники.

Это весьма опасная перспектива, учитывая разность масштабов Беларуси и России, — отмечает политолог Александр Класковский.

**Делиться прерогативами белорусское руководство не намерено**

По мнению аналитика, Александр Лукашенко кусал губы еще и потому, что чувствует опасности втягивания в евразийскую интеграцию.

— Но у него, по сути, нет выбора. Точнее, он сам перечеркивает европейскую альтернативу такими вызывающими шагами, как введение «черного списка» невыездных или же расстрел двух людей, обвиненных во взрыве бомбы в минском метро, — отмечает аналитик. — Официальный Минск сейчас вынужден подыгрывать Кремлю и не раздражать Москву, поскольку мосты на Запад сожжены, экономика «сидит» на российской игле.

Сами по себе итоги саммита, по мнению аналитика, являются промежуточными.

— Беларусь, худо ли бедно, но какие-то плюсы получает именно от самого процесса участия в реализации кремлевских проектов. Самое главное, что на несколько лет вперед получены дешевые энергоносители, — обращает внимание эксперт.

Однако и проблем много. Во-первых, разные экономики: Россия и Казахстан — сырьевые страны, Беларусь — сборочный цех.

— Уже по этой причине трудно состыковать их — вот почему так мучительно бьются вокруг тарифов и цен на энергоносители, — полагает Александр Класковский.

Белорусская экономика является практически нерыночной, а в Казахстане и России рыночные реформы пошли гораздо дальше. И третья причина — это нормативные рамки Единого экономического пространства, которые в скором времени принудят координировать, в частности, макроэкономическую и финансовую политику, что для белорусского руководства тоже весьма неприятно.

Александр Класковский подытоживает: впереди все меньше будет пряников и все больше напрягающих моментов, не говоря уже о том, что переход на общую денежную единицу и делегирование иных полномочий наднациональным органам будет чем дальше, тем больше грозить утратой элементов белорусского суверенитета.

**Геннадий КОСАРЕВ.**

ВАЛЮТНАЯ ВЫРУЧКА

# Ці падзеліцца дзяржава валютнай выручкай з народам?

БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ ДАЮЦЬ СПРАВАЗДАЧУ ПЕРАД НАСЕЛЬНІЦТВАМ АБ РЭКОРДНЫХ ТЭМПАХ РОСТУ ВАЛЮТНАЙ ВЫРУЧКІ І НЕБЫВАЛЫХ СУМАХ ЯЕ ПРЫТОКУ Ў КРАІНУ. НА ЯКУЮ ЧАСТКУ ВАЛЮТНАГА ПІРАГА МОГУЦЬ РАЗЛІЧВАЦЬ ШАРАГОВЫЯ БЕЛАРУСЫ?

- Сітуацыя ў эканоміцы цяпер адносна раўнаважкая, таму тэарэтычна павышэнне выручкі прапарцыйна павінна садзейнічаць далейшаму павышэнню ўзроўню жыцця насельніцтва. Аднак на практыцы гэтага не адбываецца, - адзначае эканаміст Сяргей Чалы, падкрэсліваючы, што паміж ростам экспарту і дабрабыту насельніцтва хутчэй існуе не прамая, а зваротная сувязь.

- Знешняя канкурэнтаздольнасць беларускай прадукцыі і гандлёвы баланс палепшыліся як раз дзякуючы падзенню рэальных даходаў і ўзроўню жыцця, дэвальвацыі і, адпаведна, скарачэння вытворчых выдаткаў у даляравым выразе, - кажа эксперт. - Але калі прадпрыемствы здолеюць зарабіць дадатковую валюту, яны цалкам могуць дзяліцца заробленымі грашыма са сваімі работнікамі.

А вось дзяржава, паводле яго слоў, выгодамі, атрыманымі ад Расеі, ні з кім дзяліцца не збіраецца.

- Мы выходзім на дадатнае сальда, у тым ліку і за кошт скарачэння кошту газу і нафты. Аднак ўнутраны кошт застаецца нязменным, было гэта 245 даляраў за кубаметр газу або цяперашнія 165 даляраў, - аргументуе Сяргей Чалы.

Дадатковыя грошы ідуць «у бюджэтную скарбонку». У выніку іх могуць атрымаць некаторыя катэгорыі бюджэтнікаў. І можа да парламенцкіх выбараў штонебудзь падкінуць.

**Андрэй Саковіч.**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742
**Падпісана да друку 29.03.2012 у 18.40.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.